ПРАЗМЕРНАЕ ЎЖЫВАННЕ ПІВА І ЧЫТАННЕ ГАЗЕТ ШКОДЗІЦЬ ЗДАРОЎЮ!

piunaya.by




ISSN 2077-0308



№3 (5)
19 красавіка 2010

А що, українське пиво горш за мэні, чы що?

# ДЭМ ПІНГ М ПОН

# Што п'юць "зоркі"?

У эксклюзіўным інтэрв'ю спецыяльна для нашай газеты зорка рагга і хіп-хопу Дэцл (ён жа Le Truk) прызнаўся ў сваіх таемных алкагалічных перавагах. Стар. 6-7

**Гісторыя старажытнага п'янства і разгільдзяйства**

## ЯК І КІМ БЫЛА ВЫНАЙДЗЕНА ПАСТЭРЫЗАЦЫЯ ПІВА?

Стар.12-13

**У красавіку ў Мінску адбыўся III Міжнародны З'езд калекцыянераў піўной атрыбутыкі.** Стар. 10

МЕНЯЮ ПИВО на ПИВО

## Беларускім піваварам паставілі задачу ўдвая павялічыць вытворчасць піва

**На нядаўняй нарадзе ў Прэзідэнта быў разгледжаны стан рэчаў у адной з самых прагрэсіўных галін беларускай эканомікі – піўной сферы.**

Гаворка ішла пра павелічэнне паказчыкаў. Бо, "благодаря текущей модернизации белорусских пивоваренных компаний... ежегодное производство ячменного напитка составит около 65 млн дал", – гаворыцца ў паведамленні, якое было абнародавана па выніках нарады.

Варта адзначыць, што аб'ём вытворчасці беларускага піва ў 2009 г. склаў 33,6 млн дал. То бок, каб выканаць агучаны паказчык, півавары павінны павялічыць выраб сваёй прадукцыі ўдвая!

**Міністэрства замежных спраў Беларусі пачало антыдэмпінгавае расследаванне ў дачыненні ўкраінскага піва. Такое рашэнне было прынята на падставе заявы канцэрна "Белдзяржхарчпрам", пададзенай ад імя беларускіх півавараў.**

Украінскія вытворцы піва лічаць неабгрунтаванымі прэтэнзіі беларускага боку ў наўмысным заніжэнні цэн на сваю прадукцыю. На думку генеральнага дырэктара аб'яднання "Укрпиво" Галіны Караньковай, цэны на ўкраінскае піва справядлівыя: "Занижения цен со стороны украинских производителей нет. Они у нас изначально ниже потому, что цена на сырье, в первую очередь на солод, у вас, в Беларуси, намного выше". Ва Украіне цэны на солад складаюць 330-370 долараў за 1 тону, кошты ж беларускай сыравіны даражэй прыкладна на 30%.

Вынікам антыдэмпінгавага расследавання можа стаць увядзенне абмежавальных мер, спецыяльнай антыдэмпінгавай пошліны на ўкраінскае піва, якое ў выніку зраўняе яго з цэнамі беларускіх вытворцаў.

Доля ўкраінскага піва ў агульным аб'ёме імпарту ў 2009 г. склала 32,6%. Асноўны ж аб'ём імпартнага піва прыходзіцца на Расію – больш за 60%.



## КУПАЛАМАБІЛЬ



На чым ездзілі класікі беларускай літаратуры ў булачную? Стар.5

## СПОРТ: Хакеісты далі канкрэтнай шайбы настаўніку зборнай! Стар.15

Гэтак яны адзначылі сваю перамогу ў нацыянальным чэмпіянаце. Без алкаголю тут не абыйшлося. Трэнер знаходзіцца ў бягах.

[актуаліі]

## АДНЫМ ГЛЫТКОМ

**Запасы**



Колькасць гатовай прадукцыі на піўзаводах Беларусі паводле стану на 1 красавіка складала 1,7 мільёны дал, альбо 67,6% сярэднемесячнага аб'ёму вытворчасці. Адным з рашэнняў праблемы магло б стаць закрыццё складоў на кансервацыю, каб праз пэўны час прадаваць на экспарт элітнае піва 5-10-гадовай вытрымкі з насычаным церпкім водарам.

**Чарка**



З мэтай эфектыўнага развіцця лікёра-гарэлачнай галіны і з улікам прапаноў канцэрна "Белдзяржхарчпрам" адпускныя цэны на спірт этылавы рэктыфікаваны павялічаныя на 5%, што стане прычынай хоць і не значнага, але ўсё ж такі павышэння цэн на гарэлку.

**Шкварка**



Закупачныя цэны на буйную рагатую жывёлу, якая рэалізуецца для рэспубліканскіх дзяржаўных патрэбаў, павышаныя ў сярэднім на 10%, свінняў – на 5%. Магчымае падаражанне мяса не павінна істотна адбіцца на дабрабыце беларусаў, бо з-за адначасовага падаражання гарэлкі патрэба ў закусі зменшыцца.

**Уран**



Па словах дырэктара дэпартамента па геалогіі Мінпрыроды Уладзіміра Карпука, ёсць інфармацыя пра павышаную канцэнтрацыю парод, якія ўтрымліваюць уран. У раёне ад Ельска да Лельчыц геолагі ўжо вядуць пошукі гэтага элемента. Пасля таго, як знойдуць уран, можна будзе пачынаць шукаць золата. Прычым адразу ў злітках Нацыянальнага банка.

**Сыр**



Як паведаміў кіраўнік Мінсельгасхарчу Сямён Шапіра, ужо сёння наша краіна займае 10,8% у сусветным аб'ёме продажаў сыру. Адначасова пастуліла заданне і надалей нарошчваць паказчыкі па вытворчасці гэтага прадукту. Прыйдзецца выцясняць смярдзючыя французскія, дубовыя галандскія і дзіравыя швейцарскія сыры нашымі смачнымі і апетытнымі "Пашахонскімі", "Аршанскімі" ды іншымі плаўленымі "Дружбамі".

**Хай-тэк**



Мадэрнізацыя ды інавацыя дабралася і да нашых краёў. Канструктары жодзінскага БелАЗа заканчваюць зборку беспілотнага кар'ернага самазвала. Новая мадэль будзе кіравацца дыстанцыйна па выдзеленым радыёканале. Пульт дыстанцыйнага кіравання павінен быць вельмі кампактным, каб запраса змяшчацца ў прычэпе самога БелАЗа.

**Інтэрнэт**



"Белтэлекам" з 19 красавіка зменшыў тарыфы для інтэрнэт-правайдэраў на 25%, што павінна падштурхнуць апошніх да паніжэння кошту тарыфаў для карыстальнікаў. Дзякуючы чаму аматары "Аднакласнікаў" ды іншых "Кантактаў" змогуць праводзіць у сеціве на 25% часу больш.

ЗНОЎКУ НА ПАЛЯХ КЛАСАВАЙ БАРАЦЬБЫ НЕ СЦІХАЮЦЬ ЖАРСЦІ Ў ДАНІІ: СКЛАДСКІЯ РАБОЧЫЯ

# Піць ці не

## Сапраўды гамлетаўскае пытанне паўстала перад дацкімі піваробамі

**Цягам 5 дзён была амаль спынена праца дацкага галаўнога аддзялення піваваранай кампаніі "Carlsberg" – забастоўку абвесцілі складскія рабочыя.**

Прычынай страйку стала рашэнне абмежаваць ужыванне бясплатнага піва. Раней такіх варварскіх лімітаў не было – халяўнае піцтво было паўсюль і піць яго можна было ў любы час. Цяпер жа ў халадзільніках засталіся толькі нікому не патрэбныя вада ды газіроўка. Піва ж піць дазваляецца толькі ў абедзены перапынак, і тое не больш за адну бутэльку. Служба дастаўкі таксама спаралізаваная – падтрымалі сваіх калег і вадзіцелі. Яны патрабавалі вяртання старой нормы – 3 порцыі піва ў дзень. Маўляў, гэта ніколькі не перашкаджае руліць, а хутчэй наадварот, пад бутэлечку і тавар весялей развозіцца.

Працяглыя перагаворы адміністрацыі з прадстаўнікамі прафсаюзу пакуль не прынеслі жаданых вынікаў. Адзінае, пра што дамовіліся – гэта узнавіць працу, каб не падводзіць кліентаў. А да пытання нармавання піва вырашана вярнуцца пазней. Нічога пакуль не вядома і пра сітуацыю ў замежных піваварах групы "Carlsberg", сярод якіх значыцца і беларуская "Аліварыя". Шкада. Нашы айчынныя рабацягі таксама не адмовіліся б ад такога кшталту прывілеяў, бо куфаль-другі свежавырабленай "Дзесяткі" яшчэ нікому не перашкодзіў. Але ж дацкія правілы складаліся без уліку славутай Дырэктывы №1, так што ў бліжэйшы час прыстасаваць дацкія нормы да беларускіх рэаліяў наўрад ці атрымаецца.

**Ганс-Хрысціян КАЛЬТЭНБЕРГ**

## АСАБЛІВАСЦІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДКАРКОЎВАННЯ ПІВА









Усе мы ведаем, як часам бывае цяжка, калі пры наяўнасці ў руках бутэлькі жаданага бурштынавага напою, раптам сутыкаешся з думкай, якая халодзіць душу: "А чым жа ж яе адкаркаваць?" Мозг і рукі пачынаюць ліхаманкава сканаваць кішэні і перабіраць у іх разнастайныя артэфакты сучаснага жыхара мегаполіса: запальнічка, ключы, жэтончыкі, мабільнік, пілачка для пазногцяў. Вочы ў той сама момант шукаюць хоць які жалезны элемент архітэктурных канструкцыяў. І гэтая праблема па сваёй сутнасці такая ж інтэрнацыянальная, як і сам працэс піцця піва ў грамадскіх месцах.

Напрыклад, у Паўднёвай Карэі, дзе да канца яшчэ не перамаглі ідэі Чучхе, карыстаюцца старымі дзедаўскімі спосабамі – пры дапамозе таэквандо. Не ў меру разумныя выхадцы з туманнага Альбіёну не задумваюцца пра кошты паслуг стаматолага, а індыйскі камп'ютаршчык – пра кошт клавіятуры свайго амерыканскага працадаўца.

А чым адкаркоўваеце піва вы? Галасаванне на сайце **piunaya.by**

**ПІВАВАРНАГА КАНЦЭРНУ CARLSBERG АДМОВІЛІСЯ АДГРУЖАЦЬ ПІВА. ВАДЗІЦЕЛІ ПРАЯВІЛІ САЛІДАРНАСЦЬ**

# піць...







Месца пад куфаль піва

# З чаго мы п'ем?

Паводле інфармацыі "Белдзяржхарчпраму" аб'ём вытворчасці піва ў ПЭТ-упакоўцы ў I квартале бягучага года склаў 5,9 млн дал, скараціўшыся ў параўнанні з тым жа перыядам мінулага года на 3,1%. Доля гэтай тараўпакоўкі ў агульным аб'ёме выпуска піва ў краіне склалася на ўзроўні 80,1%.

Вытворчасць піва ў шкляной тары скарацілася на 14,7%, да 1,1 млн дал (яе доля ў агульным аб'ёме вытворчасці склала 15%).

Разліў піва ў кегі ўзрос 6,6% – да 298,8 тыс. дал (4,1% у агульным аб'ёме вытворчасці); у алюмініевыя бляшанкі – скараціўся на 38,5%, да 60,3 тыс. дал (0,8% у агульным аб'ёме вытворчасці).

Колькі было выпіта рабочымі піўзаводаў да разліву крыніцамі не паведамляецца.




## Піва "Бівер Пшанічнае" атрымала дыплом пераможца на конкурсе "ГУСТ–2010"

**У Мінску адбыўся штогадовы прафесійны конкурс-дэгустацыя на лепшы прадукт года "ГУСТ–2010".**

Экспертная камісія, у склад якой уваходзілі лепшыя спецыялісты Беларусі, вызначыла самыя якасныя прадукты ад беларускіх вытворцаў. Прадпрыемства «Максэль» (вытворца жывога піва "Бівер") у намінацыі "Піва светлае" было адзначана дыпломам пераможцы: "Бівер Пшанічнае" неасветленае прызнана лепшым півам у сваёй катэгорыі.

## ВАНДРОЎНАЯ КАЛЕКЦЫЯ




Клуб калекцыянераў "Піўныя Волаты" сумесна і пры падтрымцы піваварні "Beaver" арганізавалі перасоўную экспазіцыю піўной атрыбутыкі, якая дэбютавала ў сталічным рэстаране "Піпл'с" (вул. Кальварыйская, 1; ст.М "Фрунзенская").

Арганізатары выставы плануюць, што калекцыя будзе пашырацца і вандраваць па сталічных (і не толькі) рэстаранах, дзе разліваецца жывое піва "Beaver".

HoReCa & RetailTech HoReCa & RetailTech HoReCa & RetailTech HoReCa & RetailTech HoReCa & RetailTech






# Узнагароды – лепшым!

**З 6 па 9 красавіка ў мінскім выставачным цэнтры Белэкспа праходзіў форум "HoReCa&RetailTech" (Піва. Віна. Напоі). Вядома ж, рэдакцыя Піўной не ўтрымалася, каб не завітаць на гэтую звышзначную падзею. Чаго і каго там толькі не было: міністры, рэстаратары, танцоўшчыцы кабарэ, ды й проста аматары нахаляву падэгуставаць напоі разнастайнай моцнасці. Своеасаблівую фотасправаздачу мы вам і прэзентуем.**

Международные выставки
Бистро. Магазин. Ресторан
Пиво. Вина. Напитки
HoReCa RetailTech
Специализированный форум
HoReCa & RetailTech
6-9 апреля

**Ля ўваходу не было дзе носу прыткнуць**


HoReCa&RetailTech

Бистро. Магазин. Ресторан

Пиво. Вина. Напитки

9.04.2010 Минск

ДИПЛОМ

награждается

«ПІЎНАЯ»

Газета

ЭКСПОФОРУМ





**Унутры так і намагаліся зманіць гарэлкай і алкагольнымі сурагатамі**



**Закусь рабілі прама на месцы**

**Сярод мноства разнастайных спакусаў павільён газеты "Піўная" карыстаўся асаблівай папулярнасцю. Атракцыён "Сфоткайся на памяць з газетай" заткнуў за пояс нават дэгустацыю армянскіх каньякоў**




ЖИВОЕ ПИВО

**Лілося ракою піва жывое**

**У выніку бурлівая актыўнасць супрацоўнікаў газеты "Піўная" не прайшла незаўважнай у арганізатараў выставы: яскравым доказам гэтаму служыць ганаровы дыплом І ступені**




**Не сціхаюць жарсці вакол прыснапамятнай забароны распіцця піва ў грамадскіх месцах. Безліч журналісцкіх алоўкаў і асадак зламалася ў працэсе напісання аналітычных матэрыялаў.**

А колькі бацькоўскіх грошай выплачана на штрафы за сыночкаў-аболтусаў, якія трапілі з бутэлькай піўка ў кіпцюры стражаў закону. Але з большага грамадства даволі пасіўна праглынула такую навіну і пакідае свае кроўна заробленыя "палучкі" ў барах і рэстаранах. Толькі зрэдку незадаволеныя нараканні з'яўляюцца на старонках інтэрнэт-форумаў. Але ж чытачы "Піўной" зусім не такія – яны не могуць маўчаць, калі вакол робіцца такая несправядлівасць. На нашу электронную пошту gazeta@piunaya.by прыйшоў ліст за подпісам Руслан Н. (Правапіс аўтара захаваны)

# "Адкуль такі расклад?!."

*"Паважаемая рэдакцыя!*

*Нядаўна я прыехаў з Берліна – аднаго з найлепшых гарадоў на планеце. Недарагі алкаголь, піва ад 50 еўрацэнтаў, цьма бараў, клубаў, мерапрыемстваў кожны дзень любога фармату і на любы густ, з якаснай творчасцю. Іду па вуліцы, бяру піўко, прахажу 7 бараў і 3 кебабныя за першыя 100 метраў, бачу ў аднім экран і чвэрць-фінал лігі чэмпіенаў. Бар пусты, я захажу са сваім півам, вітаюсь, і гляжу футбол. Праз 10 хвілін бармэн з-за мангалу кажа: "Эй, парніша, можа жадаеш, вось жараная сасіска за кошт бара". Я кажу: "не, данке, мэн, я не ем мяса". Даглядзеў да канца першы тайм: "Дзякуй, пака". – "Пака, захадзі яшчэ…" Патусаваўшыся ў Берліне тыдзень я папаў на дваццацігоддзе сквота КÖРІ. 4 сутак падрад, пару тысяч людзей, 5 танцполаў нон-стоп з рэальна разнастайнай музыкай.*

*Я прыехаў у Берлін чысла 20 лютага і вруціў у Мінск дзесь у сярэдзіне сакавіка. Прыняцце закону аб забароне распіцця алкаголю на вуліцэ ад 23.02.2010 прайшло без мяне. Я вруціў у тыпа еўрапейскую дзяржаву, дзе забаронена піць піва на вуліцэ. Першыя дні па прыезду я не знаходзіў сабе месца і не нахажу зараз. Як у Беларусі, у краю з багатай культурнай традыцыяй піцця піва у ясны летні дзень можна было забараніць піць піва? Усё жыццё мы бачым, як нашы дзяды, бацькі, суседзі з таго дому, мужыкі з раёну пазітыўна п'юць піва на лавачцы ва двары. І ніколі гэта не было праблемай, а, наадварот, можна спаткаць шмат знаёмых, пакуль ідзеш да магазіну і абратна. У каждым серыале і мянты і бандыты бухаюць на вуліцэ, усе бачым па целіку, як п'е піва Пуцін на ўсю краіну. Усё жыццё гэта было часткай культуры. Зразумела, што гэта не добрая частка – татальнае спайваніе насельніцтва таннай водкай адпаведна заробку. Продаж алкаголю, асабліва водкі ў нашых краях заўсёды быў прыбыльны, і дзяржава ніколі не супрацьстаяла прапагандзе алкоголю, будзь то Шурык з "Каўкаскай пленніцы", будзь то эмцівішыя зоркі, якія ўвесь час у хлам на сваіх затуманеных паці. Але я кажу пра тую частку культуры, калі піўко з карышамі на гарадзкім возерэ, з дзяўчынай, пакуль ідзеш з ёй па сваіх справах, студэнты, здаўшыя экзамены ў іюне. Але зараз яны вырашылі, што піць піва гэта безкультурна, антысацыяльна і не па-еўрапейску.*

*Чыноўнікі і міліцэйскія шышкі гавораць, што ў Еўропе ніхто не п'е піва на вуліцах, трэба каб змяніўся і наш менталітэт, "калі дастанеш 260 тысяч рублей штрафу". Гэтая краіна – краіна тупых парадоксаў. І зараз я вам раскажу, чаму тутай не Еўропа, і якая сітуацыя нас чакае гэтай вясной, летам, і яшчэ шмат шмат гадоў, пакуль чагосьці не зменіцца.*

*Серада, горача, 3 гадзіны ўдзень. Скончыў працу раней і хачу адно-два піўка выпіць, пакуль чакаю сябра. Ніколі не прыйдзе мысль чалавеку ў такі файны цеплы дзень ісці ў кабак, які распалагаецца ў падвале дома. А калі кожны раз за піўком ісці ў бар, дзе піва ў сярэднім каштуе 8000 рублеў, майго заробку не хопіць. Бо зімой і ў восень у барах я паяўляюсь 4 начы на тыдзень мінімум. Далей. Чацвер, цёплая ноч, 1 гадзіна. На цэлы Мінск працуе 5!!! бараў, зноў-такі па 8000 рублёў. Адкуль такі расклад??? Піва каштуе ў сярэднім у барах 2 еўра. Даражэй у два-два с паловай разы, чым у Германії. Пасля 23 гадзін працуе 5 бараў на цэлы Мінск. А ў тым Берліне кругласутачных бараў, дзе піва каштуе 80 еўрацэнтау, пяць штук на каждым скрыжаванні. А што рабіць тутай? Стаіш як дурак ноччу ў горадзе і думаеш – узяць чатыры піва ў магазіне, які працуе яшчэ 10 мінут ці толькі адно ў тым дурацкім бары, які таксама зачыняецца у 11. Ці ісці 25 мінут да бліжайшага начнога бара, дзе піва 10000. Адкуль такія цэны на піва ў барах? Хто іх прыдумаў? У чатыры разы даражэй чым такое самае у магазіне!*

*Руслан Н.*

*P.S. У большасці краін Заходняй Еўропы за тры зданыя бутэлькі можна купіць адну піва."*

# КУФАЛЬ ЗА КЛАСІКА!

**Месца пад куфаль піва**

**"Любая літаратура можа сказаць, што яна багатая і сталая, калі мае свайго Уладзіміра Караткевіча."**

**Рыгор Барадулін**


ЗАЯЦ ВАРЫЦЬ ПІВА

Туман плыве з нізіны сівы
Над нівай голай і пустой.
«Глядзіце, заяц варыць піва»,—
Жартуюць людзі між сабой.
А я відушчым бачу зрокам,
Як ён прысеў каля агню,
Трыгубы, шэры, касавокі,
І піва варыць з ячменю.
Яліна іскрамі страляе,
А ён прыладзіў кацялок
І трэскай варыва мяшае,
Каштуе, сплёўвае набок.
І піва заяц зварыць густа,
А на закуску — бурачок,
Трава, заечая капуста,
Галін асінавых пучок.
З зайчыхай вып'юць па маленькай
І дзеткам трошкі падлісуць,
Пужлівым галаском тоненькім
«Цвіцела морква» завядуць.
Пабачыш — не гані з абсады,
Дай хоць на гэты дзень спакой.
Павінна ж быць і ў зайца радасць
Перад халоднаю зімой.

19

Уладзімір Караткевіч на Прыпяці. 1969 г.

**А вось ляшчоў Уладзімір Сямёнавіч таксама паважаў**

**<u>26 лістапада будзе адзначацца 80-гадовы юбілей выбітнага паэта і празаіка Уладзіміра Караткевіча.</u>**
Паводле плана, зацверджанага Міністэрствам культуры, ва ўсіх памятных месцах пройдуць урачыстыя мерапрыемствы, канцэрты і літаратурныя чытанні. Прадугледжаны таксама выпуск спецыяльнага канверта з паштовай маркай і яго спецгашэнне. А на мінскіх вуліцах размесцяць білборды з яго партрэтам і надпісам "80 год з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры". Акрамя таго план святкавання ўключае паказ спектакляў паводле твораў Уладзіміра Караткевіча, стварэнне дакументальнага фільма "Ён жыў Беларуссю", чатырохсерыйнага тэлевізійнага мастацкага фільма і кінаверсіі паводле рамана пісьменніка "Каласы пад сярпом тваім", а таксама размяшчэнне ў электронных СМІ спецыяльных сюжэтаў. Нарэшце павінна выправіцца і шматгадовая несправядлівасць – у сталіцы з'явіцца помнік Караткевічу. Да гэтага манументы былі толькі ў Оршы ды Віцебску. Але самым значным помнікам усё ж стане выданне поўнага збору твораў пісьменніка. Апошні васьмітомнік выходзіў у 1987-1991 гадах і быў у момант расхоплены і зачытаны да дзір. Спадзяемся, што гэтыя грандыёзныя планы не застануцца толькі планамі, а будуць рэалізаваныя поўнасцю.

**Мадам МІЦКЕВІЧ**

## Літаратурныя пшэчытанні

23-га красавіка ў кнігарні галерэі сучаснага мастцтва "Ў" пад эгідай часопісу "Прайдзісвет" і пры падтрымцы кампаніі "Будзьма!" пройдзе вечарына "Польская паэзія XX стагоддзя". Прагучаць творы славутых польскіх паэтаў у арыгінале і перакладзе не менш славутых беларускіх перакладчыкаў.
**Пачатак а 19:00.**
<u>Адрас кнігарні:</u> г.Мінск, пр-т Незалежнасці 37-а (ст. м. Плошча Перамогі).

## Хрыстос прыпаркаваўся ў Гародні




*<u>"Чым за морам ваду ліць, лепш над Нёмнам піва піць!"</u>*
*(беларуская байкерская прымаўка)*

**З 30-га красавіка па 2-га траўня 2010 г. на турбазе "Нёман" адбудзецца 6-ы Міжнародны Рок-Байк-Фэст "Хавайся ў бульбу!" Чакаецца прыезд каля паўтары тысяч байкераў з розных краін Свету. У мінулыя гады матацыцары збіраліся ў лагеры "Купалінка", але зараз месца сустрэчы змянілася. База знаходзіцца ў двух кіламетрах ад Гродна, на маляўнічым беразе Нёмана. Афішу глядзі злева, схему праезда – справа. Сачы за дарогай!**




***<u>ТАЧКУ НА ПРАКАЧКУ</u>***




# КУПАЛАМАБІЛЬ

**<u>Народныя пісьменнікі Беларусі на таксі ў булачную не ездзілі. Для гэтых мэтаў у іх была ўласная іншамарка. Напрыклад, у Якуба Коласа быў "коласавоз", а ў Купалы...</u>**

З 16 па 18 красавіка любы ахвочы мог сфатаграфавацца на фоне асабістага аўтамабіля славутага беларускага паэта Янкі Купалы. Шыкоўны "Chevrolet GA Master DeLuxe" узору 1937 года прыгналі прама са Штатаў і яшчэ да вайны ўручылі песняру за асаблівыя заслугі. Пасля Купалавага скону "корч" стаяў на ягонай дачы ў Ляўках на адкрытым паветры. Гэта зараз запчастак хоць гаць гаці, а ў савецкія часы нават за дворнікамі ў чэргах стаяць трэба было: на месцы сённяшняй Аўтамалінаўкі была проста вёска Малінаўка з трыма хатамі, двума канямі – і ніводнай табе СТА. Так і стаяла іншамарка ды ржавела аж да восені мінулага года, пакуль за яе не ўзяліся народныя ўмельцы. Адрыхтавалі так, што слесары з "Вэст-Кост Кастамс" доўга яшчэ сліну пускаць будуць.
І вось ужо працюнінгаваную "Шэві" прыгналі ў Мінск ды паставілі каля музея Янкі Купалы на радасць аматарам аўтарэтра.



Вось ён, славуты "Шэўрале Майстар Дэ-Люкс". Іван Дамінікавіч называў сваю машыну проста – "Паўлінка".

**Слухай, як гэная твая тачка па-беларуску пішацца, Шыўрале ці Шаўрале? Верш хачу напісаць...**

**Пішы, як некалі ў "Нашу Ніву" пісаў – лацінкай**



**Сутрэнуцца, бывала, нашыя песняры – і давай за тачкі гаманіць...**

[дыялогі]

**Я катэгарычна супраць піва! Еў-еў...**

*КІРЫЛ АЛЯКСАНДРАВІЧ ТАЛМАЦКІ, ЁН ЖА ДЭЦЛ, ЁН ЖА LE TRUK*

Нарадзіўся ў 1983 годзе. Стаў знакамітым пасля Adidas фэсту ў Маскве, рэкламнага роліка "Пэпсі, пэйджэр, MTV" ды хітоў пра хатнія вечарыны і "слёзы".




# Дэцл / Le Truk: ПІВУ – НЕ!

## Кітайская гарбата таксама ўстаўляе, толькі па-свойму

ФОТА: ANOTHER.BY

**Для алдовых фэнаў творчасці Дэцла публікуем тэкст песні "Вечеринка" з акордамі для застольных і пад'ездных спеваў пад гітару**

ВСТУПЛЕНИЕ: **E | Hsus4**

**E**
Родители уехали на дачу - я гуляю,
**Hsus4**
Записную книжку с телефонами листаю.
**E**
Быстро обзвонил друзей и подруг,
**Hsus4**
Я делаю тусу - все будут танцевать вокруг.

Party у Децла дома - это круто,
Музыка на всю катушку с ночи до полудня.
Заходят друзья - на каждого по две девчонки,
Вечерина будет жаркой, соседи будут в шоке.

Ящик шампанского я нашел в кладовке,
Хороший закусон стащил с верхней полки.
Тапочек, конечно, на всех не хватило,
Я разрешил им проходить в обуви смело.

Бокал за бокалом, смотрим видеоклипы,
Двери для гостей на вечеринку открыты.
Я гуляю, как хочу, приходите все, кто может,
Проблемы с родителями нас не тревожат.

ПРИПЕВ:
**E** **Hsus4**
Party полным ходом у Децла дома,
**E** **Hsus4**
Гуляют все девчонки и парни района.
**E** **Hsus4**
Музыка играет, танцы до упада,
**E** **Hsus4**
Родители на даче - значит, все идет, как надо.

**E**
Вечеринка у Децла дома,
**Hsus4**
Гуляет весь район, гуляет вся школа,
**E**
Вечеринка у Децла дома,
**Hsus4**
Все двигают попами под музыку хип-хопа.

Я врубил видик и включил свою телегу,
Девчонки закричали - это было к месту,
Все мои слова наизусть напевали,
Под «Бэд Би» и «Легальный Бизнес»
люстру сломали.

Холодильник опустел в середине вечеринки,
Мой друг Тима крутил все новые пластинки,
Симпатичные девчонки разошлись по комнатам,
Музыка сопровождалась стонами и грохотом.

ПРИПЕВ

Ближе к утру гости стали расходиться
И только тот, кто не устал,
продолжает веселиться,
Несколько девчонок уснули в кровати,
Я бужу милашек - все, окончена party.

Помогите мне убраться, чтоб меня не попалили,
Чтоб меня не наказали родители-звери.
Вечеринка удалась, квартира в порядке,
Если к Децлу идешь - трать силы без остатка.

**Дэцл – мой аднагодка. Ягоныя хіты 10-гадовай даўніны чулі бадай усе, бо дзякуючы шалёнай раскрутцы ён гучаў на радыё, ТБ, і ў мафонах малагадовых рэпераў. Тады ён лічыў, што ён блізкі да народа і выказвае праблемы свайго пакалення, а мы ўсёй тусоўкай смяяліся пад пад'ездам з ягонага рэпу, бо сапраўды ён не адпавядаў жыццю таго часу. З тых часоў я бачыў яго нячаста – некалькі кліпаў па телебачанні.**
**А тут, 2 красавіка ён прыехаў граць у Мінскі R-club, да якога мне ісці 5 хвілін, да таго ж мне падагналі запрашальнік. Чаму б не схадзіць не паглядзець, што ён зараз робіць, спытаць чым жыве, ну what's up, карацей...**



## "БО-promo" СВЯТКУЕ ЮБІЛЕЙ



"Во-первых, это последняя вечеринка "Бо-promo", после чего мы уйдем на какое-то время на отдых, – говорит **Александр Богданов**, директор "Бо-promo", – За эти пять лет мы сделали все, что хотели, что планировали. Этой вечеринкой мы подводим своеобразный итог. Мы пригласили на это мероприятие всех, кто с нами сотрудничал, кто нам помогал, кто каким-то образом соприкасался с нами".



– Ок, мінула шмат часу з тае пары, як ты некалі ўсшумеў як Дэцл, а зараз грыміш канцэрты як “Лё Трак”. Як жыў гэты час, аб чым быў час падумаць?

Ну, увогуле я і зараз езджу з канцэртамі як Дэцл. У любога рэпера існуе нейкая колькасць псеўданімаў, і кажуць, што кожны псеўданім гэта як у тонкім энэргетычным свеце яшчэ адзін ты. Карацей, чым больш у цябе псеўданімаў,тым больш у цябе двайнікоў, і дэманам складаней знайсці рэальнага цябе.

А чым займаўся?.. Усе тым жа. Арганізаваў сям'ю, купіў кватэру, машыну купіў новую, потым прадаў ужо новую, пакінуў сабе старую. Ужо выпусціў і зараз дарабляю новы альбом пад назвай “Здесь и сейчас”. Шмат чаго адбываецца. Плюс тэатральныя пастановы гатовяцца, Смокі ставіць спектакль, у якім прымаю ўдзел я, я стаўлю спектакль, у якім удзельнічае Смокі. 26 красавіка будзе першы мой творчы вечар, дзе акапэльна вы пачуеце ўсе тэксты, якія вы чуеце на канцэртах, але сур'ёзна, без гэтых паці-трэкаў карацей. Уся сур'ёзная літаратура, напісаная мной, будзе зачытана ў адзін вечар. Дзвюхгадзіннае чытанне вершаў.




– Ты хлопец з Масквы. Як там табе маскоўскае жыццё?

Я ў Маскве бываю па 3-4 дні на тыдзень, а потым ізноў на гастролі. Ну, у Маскве ўсё як заўсёды, усе свае, чуткі і панты.

– Скажы, імя, рэпутацыя Дэцла і ўсё, што з ім звязанае, не давіць на цябе зараз?

Не, імя Дэцла поўнасцю рэінкарнавалася ў найлепшай форме, я цалкам апраўдаў сябе перад публікай, таму Дэцл ужо не з'яўляецца негатыўным персанажам.

– Але быў некалі…

У свой час так. Многія паўплывалі на гэта. Вядучыя MTV, яшчэ хтосьці, адзін ляпнуў, усе давай паўтараць. Адпаведна мне давялося нялёгка (усміхаецца), але мы лёгкіх шляхоў не выбіраем, карацей.

– Сёння пару песень ты граў у жывую, з музыкантамі. Як для цябе прыемней, як лепей сябе адчуваеш - граць з музыкамі ці пад мінусы?

О, я люблю эксперыменты, я вечна ў эксперыменце. Адпаведна мне камфортна было працаваць, галоўнае, каб музыканты былі падрыхтаваныя. Усю канцэртную праграму, якую я раблю пад мінусы, я магу адпрацаваць і з жывымі музыкамі, на іншых хуткасцях і ўсё роўна атрымаецца прыкольна і эксклюзіўна. Мне важна было паказаць, як яно ў мяне выглядае з жывымі музыкамі, і як яно выглядае ў варыянце хіп-хоп канцэрта, таму што сёння было не так шмат рэпераў, як на рэп-канцэртах звычайна бывае. Была куча растаманаў, кантынгент крыху іншы, чым на рэп-вечарынах. Мне вельмі падабаецца, калі аддача ад публікі ідзе, ты аддаеш пазітыўную энэргію і атрымліваеш яе назад. Горш, калі ты аддаеш, а натоўп не рэагуе. Атрымліваецца, адзін на ўсіх раздаеш, а гэта небяспечна для здароўя. Вось сёння, я пабачыў, што народ трохі прытаміўся – да мяне шмат каманд было, і датычна мяне, сёння было не лепшае маё выступленне. Але я думаю, што яшчэ прыеду выступаць.

– Ці звяртаешся па дапамогу да мэнэджэраў, каб збалансаваць сваю працу – выданне плыт, продаж, канцэрты і г.д., ці ўсё сам?

Усё раблю сам. Не хочацца, каб хто-небудзь падманваў, на кагосьці зло трымаць, хочацца, каб ува ўсё было крута. А на маіх плытах я проста пішу “за несанкцыянаванае капіраванне маёй прадукцыі вы трапляеце ў пекла” (смяецца). Пасыл ёсць для чалавека, які гэта прачытае. Калі робіш сам, гэта нікога не закранае ў першую чаргу. Я з музыкай звязаны ўсё сваё жыццё, яшчэ да таго, як пачаў ёй займацца. Таму я бачыў карціну, якая была пасля распаду Савецкага Саюза і дагэтуль. Змяніліся дзесяткі людзей у кіраўніцтве MTV, дзесяткі ў кіраўніцтве Муз-ТВ. На Муз-ТВ зараз зноў стаў чалавек, які некалі ў тыя гады займаўся маімі гастролямі, дырэктар канцэртнага аддзелу…




– Тут стопудова лепей рабіць самому. Ці ёсць для цябе такое паняцце як незалежная хіп-хоп сцэна, як думаеш, ці існуе яна ў Расіі, і якое дачыненне ты да яе маеш?

Незалежная хіп-хоп сцэна? Так, існуе. На гэты момант гэта я, Смокі мо. Не ведаю, ці Крыпл падпісаўся… Не, не ведаю.

– А што гэта за сцэна, якая ў тэлеперадачы“Битва за респект”?

Гэта было крута. Паболей бы такой фігні. Дрэнна, што яна карумпаваная, але паболей бы, яна папулярызуе культуру. Неважна ў якім выглядзе – дрэнным, добрым. Усім зразумела, што апошняя “Битва за респект” за здаровы лад жыцця – гэта поўная лухта! Пуцін, які прасоўвае гарэлку пад назвай “Путинка”, распавядае пра здаровы лад жыцця. Я ніколі не паверу, што Пуцін у маладосці танчыў брэйкданс. Не паверу.

– Не, я ўвогуле не ўрубаюся што гэта за хіп-хоп наогул. З Пуціным. Ці хіп-хоп гэта! І такое пытанне, якую краіну ні вазьмі, усюды ёсць вялікія праблемы. У кожнай гэтай краіне (я не маю на ўвазе напрыклад Блізкі Ўсход, там людзям не да гатэга) ёсць вялікая колькасць знаных рэпераў, якія чытаюць пра гэта. У Расіі сярод белага дня забіваюць адвакатаў, забіваюць дзяцей з Азербайджана, а расійскія рэперы чытаюць толькі пра цёлак, тачкі, і ў каго больш стаж наркамана. Як думаеш, чаму так?

Таму што ўсе яны жадаюць быць папулярнымі, ездіць на гастролі. А я ўжо даўно папулярны і езджу на гастролі незалежна ад таго, ёсць у мяне мэнэджер ці не. А ўсе гэтыя хлапчукі жадаюць быць папулярнымі. А што зараз папулярна? Сіські, цёлкі, тачкі. Гэта каціруеца на ТВ. “Цэнтр” пакаціў, і зараз будзе куча падражальнікаў, якія будуць думаць, што менавіта гэта фармат і ён пракатвае.

– Гэта ўсё і характарызуе г.зв. “рускі рэп”, у гэтым і бяда. Няма якога-небудзь сацыяльнага хіп-хопу.

У мяне сацыяльныя тэксты. Строга сацыяльныя.

– Ок. Гэта інтэрв'ю для “Піўной” газеты. Піва п'еш?

Не-е. Я катэгарычна супраць піва. Я лічу, што медавуха – гэта спрадвечна рускі напой, а піва – гэта еўрапейская хрэнь (смяецца). Піць добрае піва дорага, і ўсе п'юць танную дрэнь, у якой шмат хімічных элементаў, якія прысутнічаюць нават у некаторых сінтэтычных наркотыках. Не піце піва! Ёсць добрыя напоі – кітайская гарбата, яна таксама ўстаўляе, толькі па-свойму. Яшчэ магу сказаць: чатыры бутэлькі ў дзень напрацягу месяца робяць з мозгу жэле, карацей.

– Што скажаш напрыканцы?

Жадаю міра, надзеі і кахання. Крапіцца.

– І трымацца.

І трымацца.

Гутарыў
**Русел К. МАРОЎСКІ**

## Гера Маралес:

# Піва - гэта перш за ўсё вітамін В






**Герберт Леапольдавіч Захар'ін, ён жа Гера Маралес. Адзін з заснавальнікаў легендарнага гурта “Jah Division”. Нарадзіўся у 1961 годзе. Сцвярджае, што ён сын Леапольда Маралеса, кубінскага рэвалюцыянера, які загінуў у Балівіі разам з Чэ Геварам…**

**2 красавіка разам з Дэцлам граў Гера Маралес. Пра яго я таксама часта чуў ад аднакласнікаў ці выпадковых знаёмых, якія казалі мне: “Не, я панк-рок, хардкор не люблю. Я люблю “Jah Division” – і распавядалі мне за рэгі і растафарай. Таму з аказіяй я задаў пару пытанняў “галоўнаму гуру” растаманаў былога Саюза.**

– Вітаю Герберт. Як жыў-здароў?

Цудоўна, выдатна.

– Якую ролю твой бацька адыграў у Кубінскай рэвалюцыі?

Мне мама пра гэта казала. А так, паняцця не маю, гэта ягоныя праблемы. Ён там рабіў рэвалюцыю, а я жыў у Савецкім Саюзе. Жыццё без бацькі – нічога добрага.

– Чаго? Можа наадварот.

Ну, так. Тэма безбацькоўшчыны тады была такая вельмі “не скучная”. Не, я не плачу, нармальна. А гэты міфічны бацька, які герой, ён сапраўды герой, ён даў мне генэтыку, але ён не прымаў удзел у маім жыцці.

– Але ты сам шукаў свае карані?

Не. Можа ўсяму свой час.

– Ты пражыў ужо не малое жыццё. Што табе дапамагала трымацца па ім, вера ўва што цябе падтрымлівала?

Вера ў людзей, дабрыня, культура, музыка. Вера ў справядлівасць.

– Але на свеце вельмі шмат дрэннага і шмат нянавісці. Немажліва ўсё жыццё верыць у дабрыню людзей. Гэта проста не эфектыўна.

Ну, магчыма.

– Ок, скажы для “Піўной”, піва п'еш?

Пра піва няхай гэта будзе маёй маленькай тайнай. Але наогул я супраць алкаголю. Я за іншыя рэчы. (Смяецца)

– Гэта зразумела. Мы тут усе за іншыя рэчы. Асабліва на гэтым канцэрте. Пару слоў напрыканцы.

Каб памяталі, што піва – гэта перш за ўсё вітамін В. А перадазіроўка вітамінам В небяспечна для жыцця. А тару каб выкідалі ў сметніцы. А так, у прынцыпе… Піце піва!



Перацёр з Герам
**Русел К. МАРОЎСКІ**

[рэпартаж]




pivbar.by pivbar.by pivbar.by pivbar.by

# Піўны маяк, або падарожжа ў "Историю"

**г. Мінск,
1-ы Загарадны зав., д. 20,
бізнэс-цэнтр Silver Tower,
(ст. М "Маладзёжная")**




**Узвышаецца ў цэнтры беларускай сталіцы новенькі сучасны высокі паўхмарачос. "Сільвер Таўэр" – такую назву далі архітэктары свайму стварэнню. Але неяк выпадкова прыгадалася адна тэлефонная размова, у якой замест афіцыйнай назвы будынак клічуць проста "маяк". Тады яшчэ не прыходзіў на розум увесь сэнс гэтай назвы. Да моманту, калі адзін сябра не запрасіў пасядзець у рэстаране "Пивная История", які знаходзіцца акурат у гэтым "срэбным маяку".**

Першае ўражанне на ўваходзе – смутная трывога. Каб трапіць у залу, патрэбна прайсці два лесвічных пралёты праз гэткія сенцы – а там надымлена так, хоць сякеру вешай. Адразу ўзнікаюць асацыяцыі з мультыплікацыйным пабам з вядомага нам усім "Вострава скарбаў": за стойкай – аднаногі Джон Сільвер, у залі – піраты жлукцяць ром, граюць у косці, выпускаюць да столі хмары тытунёвага дыму і толькі і чакаюць, дзе б каго зачапіць ды патузацца. На шчасце, усе сумненні адпадаюць, як толькі заходзіш у само памяшканне. Што адразу хочацца адзначыць – прастор, нават нейкая бясконцасць, а ў нас гэта рэдка калі сустрэнеш. Вас адразу су-



pivbar.by pivbar.by pivbar.by pivbar.by pivbar.by pivbar.by pivbar.by pivbar.by pivbar.by

# Дзе знайсці газету "Піўная

**Бар "ЯПОНСКІ БОГ"**
г. Мінск,
вул. Талбухіна, 4
(ст.М."Парк Чалюскінцаў")
Толькі жывая музыка,
7 дзён на тыдзень,
30 гатункаў піва ад 4.000 руб.
Штодня 14:00 - 01:00

**Кафэ-бар "ДОБРЫЯ МЫСЛІ"**
г. Мінск,
вул. Магілёўская, 12
(ст.М."Інстытут Культуры")
Зменныя мастацкія выставы, продаж карцін, кніг, сувеніраў, кожны вечар – жывая музыка
Штодня 11:00 – 23:00

**Клуб "РЭАКТАР"**
г. Мінск,
вул. В.Харужай, 29
Правядзенне канцэртаў і вечарын, дыскатэк, карпаратываў, бокс-мерапрыемствы, 4 бары
Штодня 22:00 - 06:00

**Клуб "R-CLUB"**
г. Мінск,
вул. Сурганава, 26
(ст.М."Акадэмія Навук")
Правядзенне канцэртаў, вечарын, прэзентацый, банкетаў
Штодня 11:00 – 05:00

**Страўня "КАМЯНІЦА"**
г. Мінск,
вул. Першамайская, 18
Утульны паграбок, вялікі TV-экран, трансляцыя ўсіх значных падзей, караоке, княская зала, беларуская кухня, жывое піва
Штодня 12:00 - 23:00

**Піццэрыя-кавярня-паб "КОЛЕСО"**
г. Мінск,
вул. Куйбышава, 40
(ГЦ "Паркінг")
Еўрапейская кухня, кава, піцца, піва, грыль. Правядзенне карпаратываў.
Штодня 10:00 – 01:00

**Амерыканскі бар "DOODAH KING"**
г. Мінск,
вул. Берсана, 14
(ст.М."Пл. Незалежнасці")
Амерыканская і мексіканская кухні, музычныя вечарыны, няма напояў, у якіх няма алкаголю
Штодня 11:00 - 05:00

**Піўная "ГІСТОРЫЯ"**
г. Мінск,
1-ы Загарадны зав., 20
(ст.М."Маладзёжная")
Разліўное піва, жывая музыка, фестывалі, спартыўныя трансляцыі
Штодня 12:00 - 24:00







pivbar.by pivbar.by pivbar.by

# Куток спажыўца

| | |
|---|---|
| **Інтэр'ер:** "Мой адрас не дом і не вуліца!" | 5 з 5 куфляў |
| **Атмасфера:** "У іншага дык выскачыў бы й дух!" | 4 з 5 куфляў |
| **Цэны:** "Як той казаў..." | 3½ з 5 куфляў |
| **Сэрвіс:** "Во дзе дык дзе!" | 5 з 5 куфляў |
| **Кухня:** "Смаката!" | 4½ з 5 куфляў |

стракае ўсмешка афіцыянткі, якая падкажа больш прыдатны столік, якія стаяць то тут, то там, здавалася б, у нейкай хаатычнай расстаноўцы. Затое можна знайсці на любы густ – ад 2 асоб да вялікай кампаніі, ці ад ціхага куточка да "лобнага месца". Інтэр'ер стылізаваны пад настальгію пра лепшае савецкае: афішы ды героі вядомых усім фільмаў, чырвоныя зоркі ці першы савецкі лямпавы тэлевізар, – у такой абстаноўцы, адчыніўшы меню, канстатуеш – тыя часы прайшлі. Кошт страваў крыху скубе кішэню, хаця трэба прызнаць, што паспрабаваўшы мясцовыя каўбаскі, можна заплюшчыць вочы і на гэта. У выходныя можна дазволіць сабе адпачынак з сяброўкай, тым больш грае прафесійны гурт. Можна нават замовіць які хіт, хаця і так увесь рэпертуар складаецца з забойных" песень. Немагчыма ўседзець – ногі самі просяцца выскачыць ды даць два-тры "па" з падскокам.

У будзёныя дні рэстаран працуе з поўдня да поўначы, так што моцна не насядзішся (да таго ж раніцай на працу). А вось у пятніцу і суботу, як гавораць на Століншчыне – "на ўікэнд" – гуляй хоць трэсні: абслугоўваюць да апошняга кліента. І яшчэ маленькая наводка аматарам футбола – маюцца 2 вялізныя экраны для якаснага прагляду футбольных баталій пад куфаль піва і талерачку фісташак. Атмасфера выдатная. На матчы з удзелам, напрыклад, "Ліверпуля" вы рызыкуеце апынуцца ў суседстве з яго фанамі (ёсць у Беларусі і такія), тады атмасфера "Энфілд Роўд" вам забяспечаная. Вось такая вось "Гісторыя"...

pivbar.by pivbar.by




# я" і прыемна папіць піва

[бірманія]

# Бірафілы ўсіх краін з'ядналіся!

## З красавіка ў Мінску адбыўся III Міжнародны З'езд калекцыянераў піўной атрыбутыкі

На фота: Дэлегаты З'езда праводзяць дэгустацыю беларускіх гатункаў піва

"Ударым масавай дэгустацыяй па п'янству і разгільдзяйству!" – кажа старшыня Клуба "Піўныя Волаты" Васіль Майко

Руслан Луцюк з Кіева прывёз багатую калекцыю піўных артэфактаў

Дарюс Шырмяніс (Літва) глядзіць на свет праз піўныя акуляры

**Такога наплыву бірамана ў Мінск, бадай, яшчэ не бачыў. Калекцыянеры піўной атрыбутыкі колькасцю больш за 100 асоб прадстаўлялі 8 краін: Беларусь, Расію, Украіну, Літву, Латвію, Эстонію, Малдову і нават Ірландыю.**

Сярод ганаровых гасцей з'езда прысутнічалі прэзідэнт клуба бірафілаў Пецярбурга "Пивной этикет", старшыня Маскоўскага клуба піўной атрыбутыкі, прэзідэнт літоўскага клуба бірафілаў. Арганізатарам з'езда з'яўляўся беларускі клуб калекцыянераў піўной атрыбутыкі "Піўныя Волаты". Са слоў старшыні клуба Васіля Майко, колькасць удзельнікаў магла быць нашмат большай, аднак візавы рэжым Беларусі з Еўропай стаў перашкодай для гасцей з Польшчы, Чэхіі, Славакіі ды іншых краін Еўрасаюза.

Асноўная частка з'езда – праца гэтак званай "біржы", падчас якой калекцыянеры абменьваюцца экзэмплярамі этыкетак, куфляў, бірдэкеляў, кронэн-коркаў, шукаюць новыя ўнікальныя ўзоры ў зборах сваіх калег. На думку Васіля Майко падобныя з'езды маюць важнасць найперш як спосаб наладзіць кантакты з такімі ж самымі калекцыянерамі, тэматычнымі клубамі і заводамі.

У рамках з'езда прайшла дэгустацыя цёмных гатункаў беларускага піва па алімпійскай сістэме: "на выбыванне". Напоі ацэньвала экспертнае журы з пяці чалавек, сярод якіх, дарэчы, былі прадстаўнікі толькі замежных краін – Літва, Латвія, Эстонія, Украіна і Расія. Удзельнікі з'езда таксама змаглі паспрабаваць свае сілы ў традыцыйных конкурсах, напрыклад, у спаборніцтве ў перастаўленні піўных бутэлек з адной скрыні ў іншую. У класічным конкурсе на самае хуткае выпіванне піва ўдзельнікаў чакала неспадзяванка: мужчынам давялося высербаць піва лыжкай з супавай талеркі, жанчынам – высмактаць саломкай з бляшанкі. З'езд праводзіўся пры падтрымцы піўнога брэнда "Бівер", які прадаставіў куфлі і сувенірную прадукцыю для ўдзельнікаў з'езда.

Загадчыца Музея півавараэння ў Пецярбургу Галіна Кляроўская знайшла яшчэ адзін экспанат для сваёй калекцыі

# КУБАК ЦЁМНАГА ПІВА

## Замежныя бірафілы правялі дэгустацыю цёмных гатункаў беларускага піва




**ЧВЭРЦЬФІНАЛ:**
Аліварыя Портэр – Крыніца Портэр, 4:1
Дзвінскі Бровар "Цёмнае золата" – Брэсцкае Цёмнае, 5:0
Лідскае Портэр – Крыніца "Культ цёмнае", 3:2
Брэсцкі Портэр – Лідскае "Бархатное", 4:1

**ПАЎФІНАЛ:**
Аліварыя Портэр – Дзвінскі Бровар "Цёмнае Золата", 3:2
Лідскі Портэр – Брэсцкі Портэр, 5:0

**ФІНАЛ:**
Аліварыя Портэр – Лідскі Портэр, 4:1

UNITED COLORS OF BEER.

# Піва, якое нас здзіўляе vol. 2

Месца пад куфаль піва

Распачынаючы гэтую рубрыку, мы нават і падумаць не маглі, якія разнастайныя гатункі вараць па той бок "Жалезнай заслоны". Варта толькі раскрыць межы шэрай будзёнасці і зусім крышачку адыйсці ад кананічнага "Закону аб чысціні піва" 1516 года, згодна якому ў працэсе прыгатавання дазваляецца выкарыстоўваць толькі ваду, хмель і солад, як перад намі паўстае бясконцы піўны абсяг. Прадстаўляем другую частку экзатычных гатункаў.

**Здавалася б, зусім нядаўна распаўся Савецкі Саюз, а людзі ўжо паспелі забыць эпоху татальнага дэфіцыту, калі каб набыць палку каўбасы, трэба было адстаяць некалькі гадзін у чарзе. Піва таксама завозілася ў магазіны не надта часта, і часам прыходзілася літаральна рыскаць па горадзе, каб нарвацца на свежы прывоз аднолькавага па ўсёй краіне "Жыгулёўскага". Разліўнога ж тады былі толькі два віды – разбаўленае вадой і не. А каб пасля разбаўлення яно пенілася, дабаўлялі мыла. І людзі пілі, хоць і ведалі. Выбару асаблівага не было.**

Шмат вады ўцякло з тае пары, але вытворчасць піва на постсавецкай прасторы не надта прасунулася наперад. Вядома ж, парашкі ўжо не сыплюць ды і колькасць гатункаў стала проста непараўнальнай. Але ўсе яны круцяцца вакол стандартнага тандэму "ячмень-пшаніца". Калі-нікалі, праўда, дадаюць лімонный кіслаты і называюць гэтую боўтанку гучным словам "Лайм". І ўсё, на гэтым думка айчынных півавараў спыняецца. Што ж тычыцца замежных вытворцаў пеннага напою, то іхняя фантазія не мае межаў.



## 1. Watermelon

Нават такая экзатычная бахчавая культура пайшла ў піўную справу. Кампанія з Сан-Францыска "21st Amendement Brewery" выпусціла пшанічна-кавуннае піва моцнасцю 4,9% пад назвай "Hell or High", што ў вольным перакладзе можа значыць "Пекла ці Кайф". Нашыя народныя рукадзельнікам таксама робяць нешта падобнае: бяруць растоўскі кавун і запампоўваюць туды шпрыцом бутэльку гарэлкі. Для таго, каб атрымалася смачнае хмяльное пітво з водарам кавуна, патрэбна колькі дзён браджэння. Але ж вытрымкі хапае толькі на паўгадзіны. Як вынік, п'юць хутчэй "Hell", чым "High".







## 2. Pumpkin

Дзе кавун, там і гарбуз. У нас з гарбузоў ужываюцца толькі семкі, астатняе ж звычайна ідзе на корм скаціне. А вось яшчэ першыя амерыканскія каланісты заўважылі, што калі да ячменнага соладу дадаць гарбузоў, то атрымлівацца неблагі напой. Зараз традыцыі працягваюць майстры з "Brooklyn Brewery". Іх сезонны эль "Post Road" прадаецца са жніўня па лістапад. Ён мае прыемны водар гарбуза і адначасова востры і салодкі смак. Моцнасць 5%.




## 3. Chocolate

Шакаладны стаўт моцнасцю 5,2% ад кампаніі Young's асабліва спадабаецца сладкаежкам. Нават далікатныя паненкі, якія грэбуюць звычайным півам, не супраць выпіць шклянку-другую на дэсерт. Колер ад цёмна-карычневага да чорнага і паслясмак натуральнага шакаладу нікога не пакінуць абыякавым.




## 4. Banana

Адзін з самых смачных гатункаў – бананавае піва ад кампаніі Wells. У склад "Banana Bread Beer" уваходзяць бананы, зброджаныя сокі, а таксама злак сорга. Прыемны пах спелых бананаў і хлебнага соладу напаўняе нос, як толькі наліваецца куфаль. Моцнасць стандартная – 5,2%.

## 5. HPB




Як заўсёды звышарыгінальныя піваvары-конегадоўцы са Злучаных Штатаў выпусцілі лагер пад назвай "Конская мача" (Horse Piss Beer). Не-не, гэта не тое, што вы падумалі. Ніякіх прадуктаў жыццядзейнасці яно не ўтрымлівае. Проста мінібраварню адкрылі прадстаўнікі асацыяцыі коннага спорту. Грошы ад продажу ідуць на пенсіі інвалідам жакеям, а таксама на ўтрыманне траўмаваных рысакоў.



[мінуўшчына]

Гісторыя старажытнага п'янства і разгільдзяйства



Удзячныя французы змясцілі партрэт Пастэра і працэс пастэрызацыі піва на 5-франкавай купюры

# ПРАЗ АСВЕТУ ДА ПРАСВЯТЛЕННЯ

*(Працяг. Пачатак у №1(3), 2(4) ад 2010 г.)*

Мы пакінулі нашых чытачоў на мяжы стагоддзяў, у часы, калі людзі ўсё ж змаглі выведаць у манахаў некаторыя сакрэты прыгатавання піва. Вядома ж не поўнасцю, відаць з-за таго, што не ўсе манахі былі гаваркімі пасля прыняцця "на грудзь". Доказам служыць тое, што нават у нашы часы існуюць абацтвы, якія да гэтай пары вараць свае адмысловыя гатункі, трымаючы рэцэпт за сямю замкамі.

Але і атрыманых ведаў хапіла, каб піваварэнне пачало хутка развівацца ў Еўропе. Асабліва моцнага росквіту піваварэнне дасягнула ў Чэхіі, паўночнай Германіі і Фландрыі. Але потым гарады паўночнай Германіі, якія былі найбольш эканамічна развітыя, усё ж саступілі пальму першынства – лідэрства захапіла Баварыя. А адбылося гэта ў выніку вайны ды нецярплівасці паўднёвых немцаў. Гэтак званая Трыццацігадовая вайна закранула амаль усе куткі Еўропы, а ў Германіі ў прыватнасці гэта вылілася ў знішчэнне і заняпад бровараў на поўначы і выкарчоўванне большасці вінаграднікаў на поўдні. Каб аднавіць культуру вінаградарства патрэбна некалькі дзесяткаў гадоў, а трубы ў жыхароў Баварыі гарэлі як і ў іншых людзей. Таму яны не жадалі столькі чакаць, а па ціхай вадзе вырашылі заняцца піваварствам. Клімат спрыяў, і шэраг беспрацоўных спецыялістаў з ганзейскіх гарадоў з азартам заняліся ўлюбёнай справай. Як вынік – Мюнхен даволі хутка стаў піўной Меккай Еўрапейскага кантынента. Доказам гэтаму служыць тое, што "*Oktoberfest*" – самы буйны піўны фестываль у свеце ўжо на працягу двухсот гадоў праводзіцца менавіта ў баварскай сталіцы.



А нячэсных півавараў у эпоху Адраджэння наказвалі сур'ёзна: залівалі пару кегаў іхнага галімага піва проста ў чэрава нягоднікам

Час прыгатавання піва абмяжоўваўся прахалоднымі месяцамі, ад кастрычніка да красавіка. Гэта было абумоўлена цяжкасцю кантролю працэсаў браджэння ў спякотнае надвор'е, бо нават тады было добра вядома, што піва не бродзіць само па сабе, а што за суслам трэба вока ды вока. Мікраскапічныя грыбкі дзейнічалі няпрадказальна і не заўсёды ў жаданым напрамку. Але ўжо ў 1551 годзе у Мюнхене з'явілася дапаўненне да знакамітага закону, дзе да трох кітоў рэцэптуры: ячменю, хмелю і вады дадаўся яшчэ адзін

## ПІЎНАЯ КУЛІНАРЫЯ

# Мідыі ў пшанічным піве "Напалеонаўскія"

**Мідыі з даўніх часоў з'яўляюцца часткай рацыёну еўрапейскіх народаў. Яны і дагэтуль застаюцца самым спажываным морапрадуктам у Старым Свеце.**

Існуюць нават спецыяльныя фермы для іх штучнага вырошчвання, каб забяспечыць патрэбу ў гіганцкім попыце. Мноства рэстаранаў спецыялізуюцца на сэрвіроўцы страў з мідый. Смажаныя, вараныя, параныя, усмятку – практыкуецца процьма спосабаў гатавання. Мы ж рэкамендуем нашым чытачам просты, хатні варыянт, які лёгка прыгатаваць на любой сярэднестатыстычнай беларускай куханьцы.

На 4 персоны вам спатрэбіцца:

*4 кілаграмы мідый* (рэкамендуем шчарскіх або іслацкіх, толькі не пераблытайце са свіслацкімі! Інакш вясёлы вечар вам гарантаваны)
*1 бутэлька пшанічнага піва*
*1 лімон*
*2 цыбуліны*
*пук сельдзярэю*
*перац, соль па густу*

1. Хораша ачысціць ракавіны пад струменем халоднай вады.
2. Выціснуць сок лімона.
3. Памыць і дробна нарэзаць сельдзярэй.
4. Пачысціць і дробна нарэзаць цыбулю.
5. Пакласці цыбулю з сельдзярэем у вялікую каструлю.
6. Заліць паловай бутэлькі піва і лімонным сокам.
7. Дадаць соль, перац.
8. Давесці да кіпення і варыць на павольным агні 10 хвілін.
9. Дадаць мідыі, павалічыўшы агонь, дачакацца, калі яны адчыняцца.
10. Зноў паменшыць агонь і варыць 10 хвілін.
11. Дастаць мідыі, якія не расчыніліся (іх есці нельга).

Кладзем усё ў глыбокую талерку, паліваем утварыўшымся соўсам. Спадзяемся, што вучыць чытачоў падсмажыць бульбу ды наліць піва ў куфаль – рэч непатрэбная. Смачна есці!






Жан Беро. Алей, холст. “На піўняку” (“Au bistro”). Імпрэсіянізм , XIX ст.




**Мусьё Пастэр доўга калдаваў у сваёй лабараторыі, каб вынайсці спосаб захоўвання пеннага напою для паставак Замежнаму легіёну, што раскватараваны ў Індакітаі.**

Месца пад куфаль піва

– дрожджы. Так што піваварам ужо тады былі вядомы некаторыя віды дражджэй. Яны пачалі селекцыянаваць ды аберагаць уласныя калоніі дражджэй, трымаючы спосабы развядзення ў найстражэйшай тайне і перадавалі іх адно сваім прамым нашчадкам.

У XVII-XVIII стагоддзях піваварны трымалі марку, галіна хутка развівалася. Нават у Новым Свеце пачалі ствараць свае гатункі, дзякуючы англійскім каланізатарам, праз якіх піва і трапіла за акіян. Хаця з іншага боку геаграфічныя адкрыцці прымусілі еўрапейскіх півавараў добра папарыцца. Прычынай гэтага стала з’яўленне новых напояў, такіх як какао-шакалад, кава ды гарбата. Яны актыўна пачалі заваёўваць сваіх аматараў, зніжаючы тым самым попыт на прыеўшыся і таму нямодны півас. Тэхнічныя ўмовы ў гэты час ужо не маглі забяспечыць далейшы рост піўной прамысловасці. Тым больш піва стала не такім ужо танным – каля 1800 года некаторыя абавязковыя нормы былі скасаваны. Цяпер кожны мог ласавацца любімым півам і не абавязкова са сваёй мясцовай піваварні. З-за гэтага зачынілі свае дзверы мноства дробных бровараў, якія не вытрымлівалі канкурэнцыі з больш буйнымі і раскручанымі канторамі – Еўропа ўваходзіла ў эру індустрыялізацыі…

Гэта быў яшчэ адзін “шчаслівы білет”, выцягнуты нашым вадкім героем. Бо на працягу некалькіх соцень гадоў спосаб прыгатавання піва змяніўся не нашмат. Яўнае і поўнае фіяска маячыла на гарызонце: хто ведае, можа і поўнае забыццё. Але на гэты раз навука і прамысловая рэвалюцыя падставілі сваё крэпкае плячо на шляху гістарычнага



**У сувязі з англа-бурскай вайной брытанскім вайскоўцам напалову зменшылі піўное давольства: замест звычайнай салдацкай піўной дозы, ім выдавалі ўсяго толькі паўпінты – накшталт нашага 0,33 л.**

развіцця. Напрыклад, перад тым, як прыдумалі тэрмометры, бір-майстрам на броварах даводзілася апускаць у варыва вялікі палец рукі, каб высветліць, ці падыходзіць тэмпература для дабаўлення дражджэй. Занадта холадна – і дрожджы не забродзяць, наадварот – загінуць. Для таго каб варыць піва нязменнага смаку і моцнасці з вялікім тэрмінам годнасці, было неабходна палепшыць цэ-лы шэраг умоў вытворчасці і захавання напою. Дзеля гэтай мэты лепшыя інтэлекты таго часу працавалі “і ў белы дзень і ў чорну ноч”, і дабіліся-такі значнага прагрэсу ў сваіх пошуках: XIX стагоддзе надало новы моцны штуршок для далейшага развіцця. Пасля 1818 года непрамы метад сушкі ў сушыльных печах (гарачым паветрам) пачаў выцясняць традыцыйны. Солад ужо не падвяргаўся прамому ўздзеянню адкрытага агню пры гарэнні дроў, што дазволіла пазбавіцца ад смаку дыма. Стары метад сушкі ўсё ж дажыў да нашых дзён у выглядзе некалькіх спецыяльных гатункаў, напрыклад бамбергскага піва. Відаць, тады ва ўласніка не хапіла грошай на новую сушыльню, а з цягам часу “копчанае” піва стала рэдкасцю і змагло знайсці сваіх прыхільнікаў. Асноўнае сусла мае вырашальнае значэнне для моцнасці і смакавых якасцяў піва.

5 кастрычніка 1842 года у багемскім горадзе Пльзень упершыню зварылі “Pils”, або “Pilsner”. Гэта было нішто іншае, як усім нам добра вядомы “лагер” – празрыстае светлае піва нізавога браджэння. Яно хутка пачало набіраць папулярнасць, таму што дзякуючы празрыстасці лягчэй было знайсці ісціну на дне куфля, чым ува ўсіх дагэташніх мутных гатунках. У 1843 годзе чэшскі хімік Карл Іосіф Напалеон Балінг вынайшаў адмысловы піўны цукрометр. З яго дапамогай дакладна вызначаўся працэнт цукру, што дазволіла стабілізаваць моцнасць і смак напою.

Па шматлікіх просьбах піваваў з паўночнай Францыі, вядомы французскі хімік і мікрабіёлаг Луі Пастэр дапёр, што дрожджы, якія выклікаюць браджэнне, прадстаўляюць з сябе жывыя арганізмы. Больш за тое, казалі, што падчас асабліва шчодрых “эксперыментаў” ён нават іх бачыў і размаўляў з імі. Гэта адкрыццё дазволіла з большай дакладнасцю кантраляваць працэс ператварэння цукру ў спірт і суадносна – забрадзіўшага солада ў піва. Ён жа ўсталяваў гігіенічныя правілы для бровараў і даў сваё імя працэсу пастэрызацыі. Пасля гэтага вынаходніцтва тэрміны захавання піва павялічыліся ў разы. Хаця ў выніку тэрмічнай апрацоўкі і гублялася некаторая частка карысных рэчываў, што змяшчаліся ў піве, затое можна было быць спакойным за працу свайго страўніка і не баяцца правесці рэшту дня ў ватэрклазеце. Дзякуй навуцы, што яна заспакоіла прыхільнікаў гэтага пітва, што зноў набірала шырыню і гонар!

Не тармазілі і іншыя вучоныя розумы. Калега Пастэра дацкі батанік Эміль Хрысціян Хансэн таксама ўнёс важкі ўклад у гісторыю піваварэння. Усё сваё жыццё ён вывучаў ды класіфікаваў віды дражджэй. А доўгімі капенгагенскімі вечарамі пад куфаль піва ў суседняй піўнусе марыў аб тым, як палепшыць гарача любімы напой. І вось аднойчы, мабыць, падвезлі няякаснага піва, дык ён так раззлаваўся, што пайшоў і вывеў асобны штам піўных дражджэй, якія дазволілі палепшыць смак тагачасных карлсбергаў ды тубаргаў.

Халадзільнае абсталяванне, вялізныя ёмістасці, сістэмы разліву ў шкляныя бутэлькі ды іх закаркоўванне, найноўшыя фільтры, – усё гэта з’явілася за колькі дзесяткаў гадоў. Піваварыз брытанскіх астравоў за кошт найбольшага эканамічнага развіцця, нарэшце, здолелі выйсці на ўзровень сваіх кантынентальных калег. Усім нам добра вядомы “Гінэс”, які тады рабіў толькі першыя крокі, а ў верасні 2009 адсвяткаваў свой 250 дзень нараджэння, будзе таму безумоўным доказам.

З развіццём чыгункі лагістыка дасягнула заваблачных вяршынь. Напрыклад, у Парыж, горад мастакоў ды рэвалюцыянераў, з Эльзасу штодзень дасылалі цягнік, поўнасцю запоўнены мясцовым півам. Якая ж рэвалюцыя без піва?! Маецца меркаванне, што Бастылія магла б дагэтуль радаваць вока турыстаў, каб невядомы французкі гумарыст не пусціў чутку наконт прыхаваных у яе падвалах дэкалітрах… Ёсць зафіксаваны факт беспарадкаў у 1888 у тым жа Мюнхене ў сувязі з невялікім павышэннем кошту піва. Заўсёднікі вялі сябе так, што ніводнага стала ані стула не засталося цэлым. Падзеі ўвайшлі ў гісторыю пад назвай “*Salvatorschlacht*” (бітва пры піўнусе Сальватар). Такім сама бурным быў і пачатак XX стагоддзя, як і бурнае развіццё піваварнай вытворчасці ўва ўсіх рэгіёнах Свету ад Аўстраліі да Канады…




**1871 год. Вёска Гросхольц. Перапынак у жорсткіх баях паміж прускімі акупантамі і абаронцамі Парыжскай камуны. Сядзячы страйк у стане кайзераўскіх войск. Падвыпіўшыя фрыцы адмаўляюцца ісці ў бой, пакуль не нальюць свежага нефільтраванага піва. Баварскі пастаўшчык ізноў спасылаецца на вывяржэнне вулкана ў нейкай там Ісландыі.**

**Цімур КУЛЬГАВЫ**

*(Працяг будзе)*

[спорт]

# Нялёгкая атлетыка

Штанга ў гэты дзень была нібыта зачараваная...

...і падскоквала як мяч

...і брыкалася як конь

...і ўпіралася як асёл

І толькі нашаму барысаўскаму асілку ўдалося зацугляць наравісты снарад!

Мы, беларусы, сільныя людзі!

Падчас цырымоніі ўзнагароджання ўсе лічылі за шчасце пастаяць побач з навaспечаным чэмпіёнам Еўропы

**3 2 па 11 красавіка ў Мінску праходзіў чэмпіянат Еўропы па цяжкай атлетыцы. Усяго на першынство кантынента з'ехаліся каля 300 удзельнікаў з 37 краін. Для нашых цяжкавікоў ён стаў сапраўды трыумфальным.**

На рахунку беларускай зборнай 8 узнагарод – тры залатыя і пяць бронзавых медалёў. Бліскуча выступілі Анастасія Новікава і Віталь Дзербянёў. Бронза на рахунку Вольгі Княжышча, Мікалая Чарняка, Валянціны Ляхавец, Шамшат Туляявай і Мікалая Новікава.

Дзверы мінскага Палаца спорту былі адчыненыя для ўсіх жадаючых, так што любы мог зайсці і далучыцца да свяшчэннага таінства. Але вольны ўваход не надта спакусіў простых мінчукоў, і толькі сапраўдныя заўзятары восем дзён запар хадзілі пабалець за сваіх куміраў.

У апошні дзень выступаў чэмпіён Пекінскай алімпіяды барысаўчанін Андрэй Арамнаў, а таму было вырашана любымі сродкамі запоўніць зал, каб аказаць ашаламляльную падтрымку. У ход пусцілі сакрэтную беларускую зброю – школьнікаў. Усё роўна ў нядзелю ім няма чаго рабіць, швэндаюцца без справы па горадзе. А так і пад наглядам пасядзяць, і на чэмпіёнаў паглядзяць. Народу сабралося цьма, каля трох з паловай тысяч гледачоў – бульбіне не было дзе ўпасці. І Андрэй не падкачаў. Па суме дваябор'я ён падняў 420 кг (рывок – 195, штуршок – 225). Галоўны трэнер Аляксандр Ганчароў вельмі задаволены "чарговым рэкордам каманды". А вось што сказаў пасля выступлення сам Андрэй Арамнаў:

"Медали пойдут в мою коллекцию — они сделают ее полной. Далее хотелось бы установить несколько мировых рекордов, но немного не хватило сил. Рев болельщиков слегка сбивал… Однако самое главное, что сегодня я выиграл и защитил титул самого сильного на Земле в своей категории. Это мой день!"

Будзем спадзявацца, што да Алімпіяды-2012 наш зямляк падыйдзе ў такой жа фенаменальнай форме. Засталося толькі крыху папрацаваць над псіхалагічнай устойлівасцю, каб лонданскія шкаляры не змаглі сваім гогатам ды ўлюлюканнем збіць з чэмпіёнскага настрою.

**Леанід ТАРАНЕНКАЎ**

## УЗНАГАРОДА ЗНАЙШЛА ГЕРОЯЎ

# Атрымаў медаль – давi на педаль!

### Алімпійцы атрымалі каштоўныя падарункі

**Як паведаміў Interfax, у сталічным Палацы воднага спорту прайшло ўшанаванне алімпійцаў і паралімпійцаў, якія выступалі за Беларусь у Ванкуверы і заваявалі медалі.**

Свае падарункі прадаставілі Нацыянальны алімпійскі камітэт, Міністэрства спорту і турызму, Беларускае таварыства інвалідаў і шматлікіх спонсараў. Культурную частку праграмы складалі афіцыйна-традыцыйныя Анатоль Ярмоленка з Алесяй, Жанэт, Гюнэш, Ірына Дарафеева і вядучая Люся Лушчык.

Акрамя дыпломаў і грашовых сэртыфікатаў спартоўцаў чакалі незвычайныя прэзенты. Прадстаўнікі кампаніі "Мясоград" паабяцалі напрацягу наступных чатырох гадоў штомесяц забяспечваць алімпійцаў сваёй прадукцыяй. Першая партыя была ўручана прама падчас цырымоніі. А Аляксею Грышыну, Сяргею Новікаву і Дар'і Домрачавай падаравалі яшчэ й модныя ровары. Цяпер алімпійскім трыумфатарам не трэба задумвацца, на чым спонсарскія каўбасы вазіць – прывязаў авоську да рамы і круці педалі. Заадно і належную фізічную форму падтрымліваць будуць.

**Анастас МЯСНІКЯНЦ**







Нехта з балельшчыкаў наіўна меркаваў, што нашым чэмпіёнам за перамогу ў Алімпійскіх гульнях дастануцца шматпакаёвыя кватэры і аўтамабілі класа "люкс". Насамрэч – новенькія горныя ровары стануць іхнымі спадарожнікамі і заменяць ім лыжы і стрэльбы да чарговай Алімпіяды.




Запаветная мара любога пачынаючага спартсмена – чатырохгадовы алімпійскі мясны паёк.

# "ГазМяс" з шайбай

## або Цяжка на трэніроўцы, лёгка на пляцоўцы

**3 красавіка скончыўся адкрыты чэмпіянат Беларусі па хакеі. "Юнацтва" пры запоўненых трыбунах Мінск-Арэны перамагла ў овертайме салігорскі "Шахцёр" з лікам 2:1.**

Агульны лік фінальнай серыі – 4:3. Здавалася б, пасля няўдалага выступлення зборнай на алімпіядзе трэнер сталічнай каманды Міхаіл Захараў даказаў зласліўцам усіх масцей свой прафесіяналізм. Але ў апошні час вакол яго персоны дзіўным чынам пладзяцца скандалы. Вось і цяпер, праз некалькі дзён пасля пераможнага матча галкіпер "Юнацтва"Сяргей Шабанаў заявіў, што пры цяперашнім трэнеры больш не будзе выступаць за гэтую каманду. У інтэрв'ю газеце "Прессбол" ён цалкам выліў душу і прайшоўся асабіста па Захараву і па ягонай трэнерскай методыцы.

"Он же их за людей не считает. Захаров может позволить себе выражения, унижающие достоинство игроков, при этом прекрасно зная, что никто ему не ответит - у всех на руках действующие контракты. Мне не хочется вмешиваться в работу тренера, но порой задаешь вопросы: почему иногда делаем странные вещи - например, бегаем кроссы по 22 км? Мы что, сборная кроссменов? Захаров отвечает, что таким образом мы вырабатываем характер.

Захаров чисто совдеповский тренер, работающий по незатейливой методике: берем побольше - бросаем подальше. А выживает сильнейший. Три года одна и та же раскатка. Два часа тренировки, во время которой хоккеисты как угорелые носятся от борта к борту, а ты стоишь в воротах и смотришь на часы - скорее бы все это закончилось. Ребята уходят со льда мокрыми, а ты сухой. Все потому, что Михал Михалыч еще и крупный специалист по работе с вратарями. Никому этот фронт не доверит.

В этом сезоне Захаров сказал две золотые фразы. Первая — "У "Юности" проблема только в одном" — и все поняли, в ком. Вторая — "Как вы тренируетесь, так вы и играете".

Пасля такіх гнеўных тырад перад чытачамі паўстае вобраз проста злоснага тырана і мучыцеля, які трымае ўсю каманду ў вожыкавых рукавіцах. Гэткі своеасаблівы Галусцян мясцовага разліву, кіраўнік усім вядомага "ГазМясу". А калі трымацца такой логікі, то сам аўтар нашумелага інтэрв'ю атрымліваецца ніхто іншы, як той Гатальскі. Таксама, дарэчы, варатар.

**Уладзь ТРАЦЯК**




Месца пад куфаль піва

## АДНЫМ РЫЎКОМ

### Палацабудаванне



Як паведаміў старшыня Мінскага аблвыканкама Леанід Крупец у бліжэйшыя гады плануецца пабудаваць лядовыя палацы ў Барысаве і Маладзечна. З такімі тэмпамі гадоў праз 30 не застанецца ніводнага райцэнтра без гэтых збудаванняў. Прыйдзецца пераходзіць на вёскі.

### Шашкі



На чэмпіянаце Еўропы па шашкам-100, які прайшоў у сталіцы Эстоніі, нашы майстры даказалі, што яны лепшыя на кантыненце. Мужчынская зборная Беларусі заняла 1-е, а жаночая – 2-е месца. Адпаведна дасягненням ужо даўно час пачынаць будаваць шашачныя палацы.

### Зборная



На бліжэйшы чэмпіянат свету па хакеі ў Германіі сфармаваны трэнерскі калектыў зборнай Беларусі на чале з Эдуардам Занкаўцом. Акрамя яго ў штаб увайшлі Уладзімір Цыплакоў, Аляксандр Андрыеўскі і Андрэй Гусаў. Новы кіраўнік адразу паставіў гіганцкую задачу на бліжэйшыя гады – трапіць у васьмёрку мацнейшых. Зараз у рэйтынгу IHF у нас 9-е месца.

### НАК




9 красавіка Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь адзінагалосна пераабраны на чарговы тэрмін на пасаду прэзідэнта Нацыянальнага алімпійскага камітэта. Мінспорта, НАКу і ўсім федэрацыям даведзены арыентыр заваяваць на алімпіядзе 25 медалёў і ўвайсці ў дзесятку лепшых спартыўных дзяржаў. Засталося высветліць, каго мы адтуль будзем выціскаць.

### Зарплаты




На паседжанні выканкаму Федэрацыі хакея было прынятае рашэнне, што з наступнага года ў чэмпіянаце Беларусі верхні ўзровень зарплат на ўсю каманду будзе абмежаваны 100000 даляраў у месяц. Каманда складаецца максімум з 25 чалавек. Урачы і настаўнікі таксама не супраць, каб падобнае абмежаванне ўвялі ў дачыненні іх заробкаў.

# Трэнер у бягах!

## Хакеісты далі канкрэтнай шайбы настаўніку зборнай



**Як і ў Беларусі, скончыўся хакейны чэмпіянат у Славеніі. Там таксама не абыйшлося без скандалаў. Але калі ў нас адносіны высвятляюць усё больш на старонках газет, то балканцы пусцілі ў ход кулакі.**

23-разовы чэмпіён саюзнай Югаславіі і 7-разовы чэмпіён Славеніі клуб "Acroni" з горада Ясеніцэ завяваў на мінулым тыдні свой восьмы тытул. І, як водзіцца, перамогу добра адзначылі. Невядома з-за чаго паміж гульцамі ды іх амерыканскім трэнерам Майкам Посму ўзнік канфлікт, але ж славенцы, не доўга думаючы, змясілі свайго замежнага настаўніка на горкі яблык. Паводле звестак мясцовых СМІ байцы знаходзіліся ў стане моцнага алкагольнага ап'янення. На сайце "Acroni" паведамляецца, што контракты з шасцю ўдзельнікамі рукапашнай ужо разарваныя, а амерыканец таксама сабраў манаткі і хуценька зваліў з краіны. Варта дадаць, што ён узначаліў каманду толькі ў 2009 годзе, а да гэтага яе трэніраваў Ільдар Рахматулін. Як бачым, гады пад кіраўніцтвам расійскага спецыяліста не прайшлі дарэмна, і ён выхаваў сапраўдных майстроў клюшкі і шайбы.

**Павал БУРЭЙ**

## ДАРЭЧЫ

### Кёрлінг недацёр!

На фоне поспехаў нашых спартоўцаў на зімовай алімпіядзе ў Ванкуверы асаблівую заклапочанасць выклікае падрыхтоўка беларускай зборнай па кёрлінгу. Сорамна глядзець трансляцыі, дзе адсутнічаюць нашы атлеты. Між тым, ходзяць чуткі, што працоўны калектыў прыбіральшчыц спартыўнага комплекса «Мінск-Арэна» можа даць фору нават канадскім кёрлінгісткам. Куды глядзіць Міністэрства спорту і турызму?

# ПА БРАЗІЛЬСКАЙ СІСТЭМЕ

## Малдаване вынайшлі спосаб развіцця айчыннага футболу

У Малдове ёсць слаўны горад Бельцы. А ў гэтым горадзе ёсць футбольны клуб "Алімпія". Праўда, дасягненні гэтага клуба пакуль не зусім адпавядаюць гучнай назве – усяго 3-е месца ў чэмпіянаце краіны ў сезоне 1994-1995. Але сёлета "Алімпія" не сыходзіць са старонак газет.

Кіраўніцтва вырашыла папоўніць бюджэт за кошт футбольнага турызму. У снежні мінулага году стартаваў конкурс "Стань футбольнай зоркай у адно імгненне!", па ўмовах якога пераможцу залічваюць у каманду для ўдзелу ў еўракубках. Вядома ж, калі клуб туды пройдзе. Акцыя выклікала небывалы ажыятаж. Каля дзвюх тысяч чалавек з усяго свету запоўнілі заяўкі на афіцыйным сайце, таму вырашана было правесці аўкцыён са стартавым унёскам у €10000. Усяго семнаццаць чалавек перабілі гэтую суму, а пераможцам стаў 36-гадовы бізнэсмен з Бразіліі Вальдэсі Эўстакіа Песоа, які прапанаваў ажно €300000. У Бельцах ужо радасна паціралі рукі, але ён аб'явіў аб сваёй неплацёжаздольнасці. Як кажуць у Бразіліі – паматросіў і кінуў.

Але "алімпійцы" не здаюцца і ўжо арганізавалі овертайм, у якім будуць удзельнічаць філантропы з першай дзесяткі. Конкурс можа закончыцца і датэрмінова, калі які-небудзь фанатык заплаціць адразу мільён. (На думку кіраўніцтва, такі абавязкова знойдзецца.)

Што ж тычыцца айчыннага футболу, то нашым функцыянерам ад скуранога мяча варта было б задумацца, ці не пераняць прагрэсіўны малдаўскі досвед, асабліва ў цяперашнім крызісным становішчы. Нават некаторыя клубы з Вышэйшай лігі з радасцю пабачылі б у сваіх шэрагах турыстаў з вялізным рахункам у банку. Тым больш, што ўзровень у нас такі, што любы бразільскі бізнэсмен не будзе псаваць агульны малюнак гульні, а можа яшчэ і фору дасць. Ды што там казаць, можна нават і на еўракубкі замахнуцца. Бо згодна вядомаму спартыўнаму прынцыпу – галоўнае не ўдзел, а перамога! А дзеля перамогі любыя сродкі прыдадуцца.




**Іон ДРУЦЭ**

[захмялелыя ручкі]

# АлкаГоль на выдумку хітра!

**Працягваем нашу рубрыку наконт спосабаў, да якіх прыбягаюць аматары парушыць Адміністрацыйны кодэкс у частцы распіцця піва на вуліцах. Супрацоўнікам адпаведных органаў трэба быць асабліва пільнымі, каб вылічыць гэтых адорвышаў ад нармальных людзей.**






У паказаным выпадку "півун" маскіруецца пад звычайнага грамадзяніна, які выйшаў папіць гарбаткі альбо кавы ў цэнтр горада. Аднак замест прыгаданых напояў хітрун-алкаголік заліў у тэрмас бутэльку-другую моцнага. Літары перад вачыма ўжо так і скачуць, але ён не здаецца, упарта працягвае "штудзіраваць апошнія навіны".




## Сітуацыя 3. "Пікнік на ўзбочыне"

Выкарыстоўваецца:
бутэлька піва 0,5 л;
бутэлечка з-пад ёгурта або тэрмас з-пад гарбаты;
газета.

# Дзе знайсці газету "Піўная" і прыемна папіць піва

**Паб-клуб "Graffiti",**
зав. Калініна, 16, 11:00 - 23:00, пт-сб 11:00 - 02:00)

**Кафэ-бар "Бастыён",**
вул. Валгаградская, 35, 12:00 - 23:00

**Піўны рэстаран "7 тонн",**
вул. Я.Коласа, 42, 11:30 - 24:00

**Клуб "Алекс'с",**
вул. Чарнышэўскага, 10а, 11:00 – 04:00

**Більярдная "Пирамида",**
вул. Чарнышэўскага, 10а, 10:00 - 08:00, бар 10:00-06:00

**Кафэ "Габрово",**
пр-т Незалежнасці, 81, пн-пт - 10:00 - 24:00, сб-нд 1:00 - 24:00

**Клуб "R-Club",**
вул. Сурганава, 26, 11:00 - 05:00

**Піўны рэстаран "Inter Pub",**
вул. Сурганва, 50, 09:00 - 02:00

**Кафэ-піцэрыя "Колесо",**
вул. Куйбышава, 40, 10:00 - 01:00

**Паб "Пинта XXL",**
вул. Кульман, 11

**Рэстаран "Шынок у Лявона",**
вул. В.Харужай, 17, 11:00 - 23:00

**Клуб "Реактор",**
вул. В.Харужай, 29, 22:00 - 06:00

**Кафэ "Сытый папа",**
вул. В.Харужай, 8, 08:00 - 05:00

**Кафэ "Pub Club Mixx",**
вул. Чырвоная, 12, 12:00 - 03:00

**Рэстраран "Троицкий",**
вул. Старавіленская, 4, 11:00 - 24:00

**Кафэ "Банана Кафе",**
вул. Старажоўская, 7, 10:00 - 05:00

**Кафэ "Стары горад",**
вул. Багдановіча, 19, 12:00 - 00:00

**Кафэ "Сказочный замок",**
пр-т Незалежнасці, 83, 12:00 - 23:30

**Кафэ-бар "Альцэста",**
вул. Багдановіча, 78, 11:00 - 24:00

**Кафэ "Beatles",**
вул. Ціміразева, 65, 10:00 - 01:00

**Рэстаран "Пивная История",**
1-ы Загарадны завулак, 20, пн-чц 9:00 - 00:00; пт 9:00 - 6:00; сб 12:00 - 6:00; нд 12:00 - 00:00

**Рэстаран "Ямайка",**
вул. Альшэўскага, 10, пн-чц 14:00 - 03:00, пт 14:00 - 05:00, сб- нд 12:00 - 05:00

**Рэстаран "Пицца-Фут",**
вул. Прытыцкага, 19а, 11:00 - 24:00

**Кафэ "Зелёная поляна",**
вул. Кальварыйская, 17, кругласутачна

**Рэстаран "Чумацький шлях",**
вул. Мяснікова, 34, 10:00 - 23:00

**Сушы-паб "Пинта VIP",**
вул. Берсана, 16, 12:00 - 02:00

**Амерыканскі бар "DOODAH KING",**
вул. Берсана, 14, 11:00-05:00

**Ірландскі паб "Дрожжи United",**
вул. Свярдлова, 2, 09:00 - 02:00

**Кафэ "Upteka",**
вул. Інтэрнацыянальная, 9, 9:00 - 23:00

**Кафэ-бар "Провинция",**
вул. Рэвалюцыйная, 2, штодня

**Кафэ "Театро",**
вул. Багдановіча, 6, 10:00 - 23:00

**Кафэ "Спиналь",**
вул. Куйбышава, 48, 11:00 - 23:00

**Кафэ-бар "KABAB.JI",**
пр-т Незалежнасці, 71, 11:00 - 23:00

**Кавярня "Чебуречная",**
вул. Валадарскага, 9, штодня

**Кавярня "У Янкі",**
вул. К.Маркса, 11:00 – 23:00

**Страўня "Камяніца",**
вул. Першамайская, 18, 12:00 - 23:00

**Кафэ "Добрыя мыслі",**
вул. Магілёўская, 12, 10:00 - 23:00

**Клуб "Verona Pub",**
вул.Гікала, 5, 12.00 - 06.00

**Рэстаран "Квартал CITY",**
вул. Маскоўская, 9, 07:00 - 05:00

**Кафэ-бар "Пивной прибой",**
вул. Маскоўская, 20, 11:30 - 23:00

**Кафэ "Госці",**
пр-т Незалежнасці, 25, 11:00 - 01:00

**Кафэ-бар "Радзівіл",**
вул. Я.Купалы, 23, 11:00 - 23:00

**Рэстаран "Ракаўскі бровар",**
вул. Віцебская, 10, 12:00 - 24:00

**Рэстаран "Піпл'с",**
вул. Кальварыйская, 1, 12:00 - 01:00

**Піўны бар "Старая мельница",**
пр-т Незалежнасці, 78, 11:00 - 23:00

**Кафэ "Саквояжъ",**
вул. Раманаўская Слабада, 26, 11:00 - 23:00

**Кафэ "Валерия",**
вул. Валадарскага, 7, 10:00 - 23:00

**Кафэ "Морячок",**
вул. Талбухіна, 14, пн-чц 11:00 - 24:00, пт-нд 11:00 - 02:00

**Кафэ "Pizza Peperoni",**
вул. Талбухіна, 18, 11:00 - 23:00

**Бар "Японский Бог",**
вул. Талбухіна, 4, штодня 14:00 - 01:00

**Кафэ-бар "Plahoff",**
вул. Прытыцкага, 2а, штодня, 11:00 - 24:00

**Пытайтеся газету, не адыходзячы ад бара!**




Газета зарэгістраваная Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 24.06.2009 г. за №531

**Галоўны рэдактар:**
**Паўлюк Канавальчык**

Заснавальнік і выдавец: Установа Інфармацыйна-выдавецкае агенцтва "ПостМедыя"

Юрыдычны адрас:
220005 г.Мінск, пр.Незалежнасці, 58-417
Тэл./факс: +375 17 292 88 77
Адрас для карэспандэнцыі:
220034 г. Мінск, п/с 1
Электронны адрас:
gazeta@piunaya.by
Дадатковую інфармацыю можна знайсці на афіцыйным сайце газеты:
**piunaya.by**

Адказнасць за змест рэкламы нясе рэкламадаўца.

Матэрыялы, што публікуюцца ў рубрыках "Цікава пакаштаваць", "Аматарам піва", "Дэгустуем разам" друкуюцца на правах рэкламы.

Пры передруку матэрыялаў спасылка на газету абавязковая.

Газета надрукаваная ў РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку", Ліцэнзія №02330/0494179 ад 3.04.2009 220013 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79

**Тыраж 3200 экз.**

Нумар падпісаны да друку:
19.04.2010 г. а 22:05:29
Заказ № 1856